Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

**Цана асобнага нумару 50 гр.**

**Падпісная плата:**

за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
**Вільня Вострабрамская 9/22**

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

# Саха

**БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ,**

**выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.**

**№ 1(5) | Вільня. Студзень 1931 г. | Год II.**



## Зьмест:



ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

Год 2-гі № 1 (5)

# САХА

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Студзень 1931

## Наш шлях да гаспадарчага поступу.

За той кароткі час, як выходзіць наш месячнік „Саха“, мы заўважваем усё большае і большае зацікаўленьне ў сялян тымі пытаньнямі, якія парушае нашая часопісь. Зразумела, што аднаго зацікаўленьня мала, — трэба, добра разважыўшы і разьмеркаваўшы, паступова ў сябе заводзіць усе тыя спосабы гаспадараваньня, якія радзяць аграномы і аб якіх можна вычытаць у гаспадарчых кніжках і журналах.

І вось, прыступаючы да выдаваньня „Сахі“ ў гэтым, 1931 годзе, мы думаем, што такі поступ у вёсцы распачнецца і што наша часопісь у гэтым кірунку шмат дапаможа селяніну. Мы добра бачым, ды ў гэтым пераконваецца і наш селянін, што стары—прастары спосаб гаспадараваньня трэба паступова замяняць на новы, лепшы. Трэба, каб нашы селяне ў гаспадараваньні бралі прыклад з культурных краёў, дзе сяляне і з малых кавалкаў зямлі атрымоўваюць толькі даходу, што маюць магчымасьць палюдзку жыць, а ня так бедаваць, як наш селянін.

Якім-жа спосабам дробнае сялянства ў культурных краінах забясьпечвае сабе дабрабыт? — Спосаб гэты ўсюды для дробных гаспадарак аднолькавы і палягае галоўным чынам у наступным: 1) у арганізацыі збыту прадуктаў дробнай сельскай гаспадаркі, а таксама ў агульным закупе прадметаў патрэбных у гаспадарцы і 2) ў рацыянальным вядзеньні самое гаспадаркі.

1. Прадукты дробнае сельскае гаспадаркі збываюцца па сходнай цане толькі тады, калі селяне не прадаюць іх кожны паасобку дробнаму гандляру-скупшчыку, а коопэратыўным спосабам збываюць свае прадукты вялікімі партыямі. Да таго, пры агульным збыце, ёсьць магчымасьць сартаваць некаторыя прадукты, а гэта мае вялікае значэньне. Аднасартовыя (штандарызаваныя) прадукты на заграніччных рынках расцэньваюцца шмат даражэй за несартаваныя, а часта бывае, што рознасартовы прадукт заграніччныя купцы проста адмаўляюцца купляць.

Апрача збыту, вялікае значэньне мае агульны закуп машын, гнаёў, насеньня і іншых тавараў патрэбных ў гаспадарцы. Пры агульным закупе тавар набываецца таней і заручанай якасьці. Таксама набываньне і ўтрымліваньне на агульны кошт добрых расплоднікаў — для гаспадарак мае вялікае значэньне. Далей — ёсьць шмат машынаў, ужываньне якіх можа значна павысіць даходнасьць тае ці іншае галіны гаспадаркі, або палегчыць працу земляроба, але дроб-

ны селянін ня можа іх набыць ды ў поўнай меры ня выкарыстае іх. З гэтай прычыны закладаюцца машынныя таварыствы, якія на агульны кошт купляюць патрэбныя машыны і супольна карыстаюцца імі

На падобнага роду коопэратыўных арганізацыях мы тут доўга спыняцца ня будзем, бо гэтае пытаньне ў дастатачнай меры асьвятляецца ў нашай часопісі ў спэцыяльных артыкулах.

2. Рацыянальнае вядзеньне гаспадаркі палягае на тым, што на палях высяваюцца такія сарты расьлінаў, якія ў дадзенай мяйсцовасьці ляпей растуць і найбольш даюць даходу.

Усім нам павінна быць вядома, што ёсьць шмат сартоў гаспадарчых расьлінаў, якія па ўраджайнасьці шмат розьняцца паміж сабою. Таксама розныя сарты не аднолькавыя ставяць вымогі, што датычыцца грунту, клімату, апрацоўкі пад іх глебы, гнаеньня і г. д. І вось-жа, гаспадару трэба ведаць, якія з ураджайных аплатных расьлін будуць на яго грунце добра расьці, як пад іх прыгатаўляць глебу, колькі і якога гною даваць, каб гэты гной добра аплаціўся павышаным ураджаем. Вось, дзеля гэтае мэты культурныя гаспадары закладаюць „дасьледчыя гаспадарчыя гурткі“, якія запрошваюць спэцыяліста-агранома і той праводзіць на малых кавалках іх палёў досьледы і пасьля гэтага дае раду, — што і як сеяць, ды якую колькасьць і якога гною даваць і г. д.

Ня меншай увагі ад палявое гаспадаркі вымагае і прадуктыўная жывёлагадоўля. Трэба добра ўстанавіць, якая рабочая жывёла таней абходзіцца гаспадару, — ці можна трымаць коняў, ці лепш валоў, або абрабляць зямлю каровамі? Потым важна ўстанавіць: ці ляпей аплачваецца малочная жывёла, ці мясная, ці, нарэшце, гадоўля сьвіней. Дзеля гэтае мэты і кантролі ўсяе гаспадаркі закладаюцца спэцыяльныя „рахаўнічыя гурткі“.

Калі-ж, напрыклад, устаноўлена, што аплачваецца ляпей трымаць малочную жывёлу, то тут ужо паўстае пытаньне, — якую пароду дойнае жывёлы ляпей завясьці, прымаючы пад увагу той пошар, які гаспадар мае, ці будзе ўжывацца гэта жывёла для працы і г. д.

Пры вядзеньні малочнае гаспадаркі, калі малако як такое нельга проста збываць (дялёка горад), тады трэба абавязкава залажыць малочнае таварыства для пераробкі малака на масла і сыр.

Да таго, малочную жывёлу трэба кантраляваць, каб ведаць як тая ці іншая карова аплачвае корм і колькі і якога корму, трэба даваць кожнай карове, прымаючы пад увагу яе прадукцыю малака. З гэтай мэтай закладаюцца ізноў-жа „кантрольныя таварыствы“.

Адсюль бачым, што дробная гаспадарка, ня будучы злучана ў коопэратыўных арганізацыях, бяссільна вясьці барацьбу за лепшае сваё істнаваньне і толькі арганізаванасьць забясьпечыць ей сілу і поступ.

Аднак, нішто ня можа тварыцца адразу. Ня можна думаць, што і ў нас усе вышэйпададзеныя мерапрыемствы хутка пройдуць у жыцьцё. Але гэта ня знача, што мы павінны сядзець злажыўшы рукі. Мы павінны зразу-ж прыступаць да разбудовы свае гаспадаркі.

Першым і пачатковым заданьнем для нашых сялян, на нашу думку, ёсьць арганізацыя сельска-гаспадарчых гурткоў самаасьветы.

Гурткі гэтыя павінны мець с.-гаспадарчыя бібліятэкі, каб сябры яго чытаньнем кніжак і журналаў маглі здабываць сабе сельска-гаспадарчую веду.

Калі ў гуртку ўзнікнуць пытаньні, якія могуць быць праведзены ў жыцьцё, трэба іх добра абмеркаваць і, парадзіўшыся з аграномам, рабіць спробы. Трэба ведаць, што нішто лёгка не даецца. Толькі ўпартаю працаю і арганізаванасьцю мы працярэбім сабе шлях к дабрабыту. Дык ня марнуйма часу і бярэмся да гаспадарчай самаасьветы!

С. Б.

# Нарысы па коопэрацыі.

## Разьдзел II.

## Зараджэньне коопэрацыі і сацыялісты-утапісты.

### 1) Робэрт Оуэн і яго навука — (1771—1858).

Нават пры павярхоўным азнаямленьні з коопэратыўным рухам няма магчымасьці абыйсьці моўчкі тае ролі, якую адыгралі пры яго зараджэньні дактрыны сацыял-утапістаў і ў першую чаргу Робэрта Оуэна.

Гісторыя сучаснага коопэратыўнага руху пачынаецца з тых сацыялістычных досьледаў, якія былі зроблены сацыялістамі-утапістамі і аб якіх зусім слушна кажа праф. Т.-Бараноўскі: „Ні Оуэн, ні тым больш яго бліжэйшыя пасьледавацелі ня мелі намеру ўвясьці ў жыцьцё такія гаспадарчыя арганізацыі, якімі цяпер зьяўляюцца спажывецкія таварыствы. Арганізацыі тых часоў радзіліся на аснове зусім іншых мэтаў і імкненьняў чым тыя, якія ажыўляюць сучасных дзеячоў у спажывецкіх таварыствах.

У жыцьці часта бывае так, што вядомая тэорыя, пры яе рэалізацыі, на практыцы выліваецца ў такія формы, якіх зусім не прадбачыць яе тварэц. Тое самае прыблізна сталася і з навукай сацыялістаў-утапістаў, якія ў межах буржуазнага грамадзянства прабавалі арганізаваць сацыялістычныя грамады і пацярпелі на гэтым цэлы рад няўдачаў.

У канцы 18 стагодзьдзя і пачатку 19 у Англіі, як ведама, паўстаў вялікі эканамічны пераварот, які носіць назоў „прамысловай рэвалюцыі“. Пераварот гэты быў абумоўлены ўваходам у прамысловасьць паравых машын, што за сабой пацягнула абмяжаваньне колькасьці рабочых у вусіх тых прадпрыемствах. Утварыліся аграмадныя кадры безработнага пралетарыяту, ня меўшага магчымасьці знайсьці сабе заработку. Узмоцнілася незадаволеньне сярод яго, дахадзіўшае ў шмат якіх мейсцах да адкрытых бунтаў, чарадуючых з разгромамі фабрык, дзе былі ўведзены ненавісныя паравыя машыны.

Забурэньні гэтыя аднак да нічога не давялі дзеля таго, што капіталісты мелі даволі сілы для іх задушэньня. Голад і нэндза безработных былі на толькі жудасныя, што на іх былі змушаны зьвярнуць увагу нават некаторыя прадстаўнікі буржуазнага грамадзянства і прыступіць да арганізацыі для іх часовай дапамогі. „У Англіі — піша ў 1829 г. Cobett — жыве найбольш няшчасны народ на сьвеце. Тут набралася больш людзкога цярпеньня, больш фізычных і маральных мукаў, чым іх калі-небудзь існавала на ўсей зямной кулі". (St. Wojciechowski. „Kooperacja w rozwoju historycznym, str. 9). На няшчаснае палажэньне, у якім апынулася рабочая кляса, не маглі, зразумела, не зьвярнуць увагі і лепшыя людзі тых часоў, якія бачылі прычыну ўсяго зла ў ненармальнасьці арганізацыі грамадзянства таго часу і імкнуліся яго направіць.

Да такіх людзей трэба залічаць і Робэрта Оуэна.

У 1816 годзе ён, маючы больш 40 гадоў, надрукаваў свой першы твор „Спроба ўтварэньня характару ў чалавеку". У ім ён даказывае, што пагляды быццам чалавек самастойна, незалежна ад вонкавых абставінаў творыць свой характар—глыбака памылковыя. Характар чалавека, паводле яго перакананьня, зьяўляецца прадуктам спадчыны і акружаючых абставінаў: людзі ня могуць адказваць за свае праступкі і дзеля таго няма падставаў іх караць. Тыя, якія зрабілі праступленьне - фактычна не вінаваты, замест іх трэба шукаць вінаватых у тэй сыстэме і абставінах, у якіх яны выхоўваліся. Дзеля таго, каб зьнішчыць праступленьне, трэба зьнішчыць тыя ўмовы, якія іх родзяць і тады праступленьні шчэзнуць самі сабой.

Неабходна выхоўваць кадры новых людзей у іншых абставінах, інакш кажучы, усё пытаньне ідзе да таго, як стварыць такія абставіны, дзе-б зьнікла безрабоцьце, беднасьць і т. п., а разам з імі і тыя праступленьні, якія вытвараюцца ненармальным грамадзкім ладам.

У 1817 г. Оуэн падае спэцыяльны праект у парляманцкую камісію. У ім—з мэтай барацьбы з безрабоцьцем, ён прапануе арганізаваць земляробскія і мануфактурныя рабочыя калёніі, упяршыню даючы ім назоў „Коопэратыўных камун".

На грамадзкія сродкі прапанавалася набыць свабодныя зямельныя дзялянкі, дзе павінны быць пабудаваны фэрмы і розныя майстроўні, і дзе-б безработныя мелі магчымасьць прылажыць сваю рабочую сілу.

Паводле праекту, дапушчалася, што ў такіх „коопэратывах" не павінна быць ні багатых, ні бедных і што ўсе павінны быць роўнымі ў сваіх правох і ўсе павінны працаваць „ня дзеля ўзбагачаньня адзінак, а дзеля агульнай карысьці". Чаго трэба было і спадзявацца, ні ангельскі парлямант, ні багатыя людзі, да якіх зьвяртаўся Оуэн — не адазваліся на яго заклік. Тады ён беспасярэдня зьвярнуўся да працоўных масаў, прапануючы сабраць адпаведную суму грошы дзеля зьдзейсьненьня свайго праекту, аднак і гэта спроба ніякіх рэальных вынікаў не дала.

Пасьля гэтага, у 1825 г. Оуэн пакідае Англію і едзе ў П.-Амэрыку з тым, каб у штаце Індыяна арганізаваць калёнію „Новая Гвіэна", і з таго часу бяруць пачаткі першай спробы практычнага

зьдзейсьненьня соцыялістычных ідэй, шляхам арганізацыі вытворчых камун. Р. Оуэн за свае ўласныя сродкі (ён быў багатым чалавекам) адкупіў у паказаным штаце ад сэкты раппістаў маёнтак ў 8,000 гэкт. зямлі з усім неабходным жывым і мёртвым інвэнтаром. Маёнтак быў у вельмі добрым стане, меў некалькі прамысловых прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў. Купіўшы гэты маёнтак, Оуэн рашыў арганізаваць у ім вытворчую камуну, даўшы ёй назоў „Новая Гармонія".

У цэлай чарадзе рэфэратаў, прачытаных у Вашынгтоне — Оуэн стараўся высьветліць характар гэтага новага пачыну, лічачы, што яго прыклад знойдзе шмат прыхільнікаў і такім шляхам удасца рэфармаваць грамадзянства на новых падставах. Не ўдаючыся ў падрабязнасьці аб характары агітацыі Оуэна і яго ўтопіі, як пытаньні зусім ведамым — і ў адпаведнай меры высьветленым у соцыялістычнай літэратуры — трэба адзначыць толькі, што Оуэн укладаў у гэту справу ня толькі буйныя матэрыяльныя сродкі, але і ўсю сваю душу і энэргію, шчыра веручы, што толькі гэтым шляхам удасца рэарганізаваць грамадзянства на новых падставах. На яго заклік увайсьці ў Новую Гармонію—зьявілася больш 900 асоб у большасьці дэклясаваных рабочых і інтэлігентаў, нічога супольнага з земляробскай працай ня меўшых.

Усе гэтыя людзі з самымі рознароднымі прывычкамі і намерамі, у сваей большасьці—ня толькі ня мелі нічога супольнага з сацыялістычнымі ідэаламі—але па сваей маральнай якасьці — стаялі вельмі нізка.

У лютым 1826 г. камуна арганізавалася аканчальна і ў гаспадарчых адносінах была падзелена на 6 аддзелаў: земляробскі, прамысловы, мануфактурны, навукова-выхаваўчы, дам. гаспадаркі, агульнай гаспадаркі і гандлю. На чале кожнага з паказаных аддзелаў стаяў выбраны загадчык, які меў права назначыць сабе 4 памоцнікаў. Загадчыкі ўсіх 6 аддзелаў разам з сваімі памоцнікамі і агульным сэкрэтаром складалі камітэт — выканаўчы орган усяе камуны, кіруючы яе бягучымі справамі.

Згодна статуту, прынятаму камунай — „ўсе сябры таварыства павінны ўзаемна ўважаць сабе за сяброў аднае сям'і, ніхто ня можа карыстацца перавагай, незалежна ад яго становішча. Па меры магчымасьці ўсе павінны атрымліваць такую самую ежу, вопратку і выхаваньне адпаведна веку, і па меры магчымасьці—усе павінны жыць у аднолькава ўмэбляваных памяшчэньнях. Кожны абавязуецца аддаваць усю сваю працу дзеля дабра таварыства". (Праф. Т.-Бар., Грамадзкія асновы коопэрацыі, стар. 26).

Праз некаторы час унутры камуны пачаліся нялады, якія ў выніку давялі да таго, што яна развалілася на некалькі меншых, а ў 1827 г. прадпрыемства Оуэна ліквідавалася аканчальна.

Па знаходзячыхся ў літэратуры дадзеных — „Новая Гармонія" не змагла арганізаваць нармальнай эксплёатацыі зямлі і сваіх прадпрыемстваў, дзякуючы чаму матэрыяльнае палажэньне яе сяброў было незадавольваючае. Яны не маглі вытварыць адпаведнай колькасьці прадметаў, „неабходных для ўтрыманьня" сваіх сяброў, ня

гледзячы нават на скрайна скромнае жыцьцё іх. Дзеля таго, што Оуэн быў юрыдычным уласьнікам усяе зямлі, знаходзіўшаеся ў уладаньні „Новай Гармоніі", ён, бачачы поўны расклад камуны і яе няздольнасьць да далейшага існаваньня, — запрапанаваў яе сябром разыйсьціся, а зусім магчыма, што проста разагнаў іх, пераканаўшыся, што шмат хто з іх зацікаўлены ў захопленьні на асабістую ўласнасьць зямлі і прамысловых майстроўняў камуны.

У выніку дзеяльнасьці Оуэна, які, як ведама, страціў на прапаганду і арганізацыю ўсю сваю маемасьць — у розных мейсцах Амэрыкі арганізавалася некалькі дробных камун, якія, аднак, распаліся, даказаўшы сваю поўную няжыцьцёвасьць.

Ня гледзячы на такія няўдачы ў Амэрыцы, Оуэн ня паў духам і, вярнуўшыся ў Англію, ізноў узяўся за прапаганду сваіх ідэй.

За часы сваей дзеяльнасьці ў „Новай Гармоніі", ён пераканаўся ў тым, якія прычыны вялі яе да ўпадку і якія якасьці павінен мець сябра коопэратыўна-камуністычнага таварыства.

Гэтыя якасьці, паводле яго пагляду, зводзіліся да наступных: 1) „шчырасьць намераў, 2) цьвёрдасьць, 3) працавітасьць, 4) дбаньне аб агульным дабрабыце, 5) дбаньне аб чыстаце, 6) імкненьне да веды, 7) перакананьне ў тым, што характар чалавека творыць ня ён сам, а варункі, якія яго акружаюць". (Пажытков, „Гісторыя коопэр. думкі" 1919 г., стар. 3—20).

Праз пэўны час ён ня меў магчымасьці займацца беспасярэднім зьдзейсьненьнем сваіх лятункаў ашчасьліць рабочую клясу шляхам стварэньня цэлай сеткі кооп. камун, бо палітычныя ўмовы тых часоў адцягвалі яго увагу на іншыя пытаньні бягучага жыцьця.

З уласьцівай яму энэргіяй ён прыступае ў 1829 г. да арганізацыі т. з. „Справядлівага банку для працоўнага абмену", які меў на мэце звольніць дробнага вытворцу ад пагубнай улады грошы і забясьпечыць работніку магчымасьць атрыманьня поўнасьцю прадукту яго працы.

Кожны вытворца карыснага прадукту мог прынясьці яго на біржу, якая знаходзілася побач з банкам і атрымаць узамену пэўную колькасьць банковых білетаў, ці квітоў, адпаведна колькасьці рабочых гадзін, страчаных на вытворчасьць прадукту". Прадпрыемства гэтае распалася, прыносячы вялікія страты, ад якіх такім чынам пацярпеў сам Оуэн. Мы тут ня будзем гаварыць аб іншых спробах Оуэна, якія, ня гледзячы на свае карысныя для працоўных масаў мэты, ня мелі пасьпеху і распадаліся.

Пасьля ўсіх гэтых няўдачаў, Оуэн заняўся выключна літэратурнай працай, не пакідаючы, аднак, да самай сваей сьмерці лятунку аб перавыхаваньні людзкого характару і арганізацыі коопэратываў-камун, адзінага сродку, які, па яго думцы, можа вызваліць людзкасьць ад усяго сацыяльнага зла.

Ён быў на толькі пэўны ў слушнасьці сваіх перакананьняў, што нават перад самай сьмерцю на дакорлівае запытаньне сьвяшчэньніка,—„ці не шкадуе ён свайго жыцьця, страчанага дарма на дасягненьне безнадзейнай мэты"—адказаў: „Не, маё жыцьцё дарма не прай-

шло, я вынайшоў сьветлую праўду і, калі яе ня прыняў сьвет, дык толькі дзеля таго, што яна пакуль-што не зразумелая. Я ня злую за гэта на людзей, дзеля таго, што радзіўся вельмі рана" (Пажытков, Гісторыя Кооп. мысьлі, стар. 20).

**Ф. Акінчыц.**

(Працяг будзе).

# Вонкавыя прыкметы добрай малочнасьці кароў.

Выбар добрай малочнай каровы адыгрывае ня малую ролю для сялян. Малако зьяўляецца ня толькі адным з найлепшых прадуктаў спажываньня для самога гаспадара і яго сям'і, але павінна стаць паважнай крыніцай яго грашовых прыбыткаў. Праўда, што малочная коопэрацыя, пры помачы якое толькі і можна дасягнуць належнага грашовага даходу з малочнае гаспадаркі, у нас, нажаль, вельмі туга разьвіваецца. Але зьявішча гэтае трэба лічыць пераходным і тлумачыць яго можна толькі нястачай у нас адпаведных арганізатарскіх і фаховых сілаў.

Найбольшым прадукаваньнем малака вызначаюцца некаторыя заграпічныя пароды кароў, якіх ня мала прывозілі і цяпер яшчэ прывозяць у наш край.

Да такіх пародаў належаць: галяндэркі, фрызскія, ангельнкі, швіцы і інш. Вялікая прадуктыўнасьць гэтых пародаў дасягнута адпаведнай гадоўляй і ўмелым падборам распладовага матарыялу. Гадуючы кароў чыста чужаземнай пароды, трэба даваць ім адпаведны, добры корм і што найрупней даглядаць іх, бо ў нашых умовах яны часта дэгэнэруюць (трацяць свае добрыя якасьці).

Ня малое значэньне для нашае вясковае гаспадаркі маюць т. зв. „мяшанцы", якія атрымліваюцца па скрыжаваньні нашае каровы з бугаямі вышэйпамянёных, высокапрадукцыйных пародаў. Гэткія „мяшанцы" не вымагаюць такіх добрых умоў і вызначаюцца даволі значнай дойнасьцю.

Апрача заграпічных пародаў і іх мяшанцаў, умеючы можна знайсьці добрых дойніц і паміж нашымі мясцовымі каровамі. З паміж мяйсцовых пародаў кароў найбольшае ўвагі заслугоўваюць белахрыбеткі (гарбалыскі) і рыжыя. Рыжую ў нас пароду кароў, бяссумліўна, трэба лічыць чыста беларускай пародай. Найбольш характэрнай адзнакай беларускае пароды, апрача спэцыфічнай масьці, ёсьць невялікі бугор на лабе вышэй вачэй, тады, як у іншых пародаў, у гэтым мейсцы, лоб роўны, або наадварот, там знаходзіцца ямка.

Я. Пачопка, які працаваў перад вайною над палепшаньнем беларускае каровы, вось што кажа аб гэтай пародзе:

„Нам даводзілася ня толькі самім вясьці працу аб выгадаваньні свае чыстае пароды кароў, але бываць у тых маёнтках, дзе гэтая парода вывадзілася. Уражаньне заўсёды заставалася самае прыем-

нае. Пастаўленыя ў адпаведныя варункі дагляду і кармленьня каровы выглядалі надта прыгожымі, а цяляты яшчэ прыгажэйшымі.

Сярэдняя малочнасьць каровы была блізка што 200 вёдзер малака ў год, а працэнт туку ў малаку некаторых кароў быў большы, як 5 (нават 5—6 з паловай) прац. Такое тлустое малако ня дае ні адна парода кароў на сьвеце! На адзін фунт масла гэткага малака патрэбна ў 2—3 разы меней, як малака галяндэрак, швіцоў і іншых пародаў.

Праклятая сусьветная вайна спыніла вельмі дарагую нам справу. Да гэтага часу было-б ужо зроблена шмат чаго і наша парода выгнала-б усе чужаземныя пароды, бо пры нашых варунках яна была-б найлепшай з усіх".

Найпэўнейшы спосаб даведацца аб гаспадарчай вартасьці дойнае жывёлы ёсьць кантроля яе малочнасьці. Аднак, пры куплі кароў, або выбару цёлак для гадоўлі, мы ня можам правясьці кантролі і практычныя гаспадары ўмеюць адгадваць прадукцыйную здольнасьць жывёлы па яе вонкаваму выгляду. Аснована гэта на тым, што жывёла, вызначаючаяся пэўнымі прадукцыйнымі здольнасьцямі, мае да пэўнае меры сталы вонкавы выгляд і адпаведную будову цэлага арганізму.

Найгалаўнейшыя вонкавыя прыкметы, якімі вызначаюцца каровы добрай дойнасьці, наступныя:

1. Малочная карова павінна мець здаровы выгляд і далікатную, лёгкую будову ўсяго арганізму. Павінен быць добра выражаны тып самкі. Галава павінна быць малая і сухарлявая, каб косьці, творачыя чэрап галавы, былі добра заметны; далікатныя з полыскам рогі; ценкія, прасьвечваючыя вушы.

2. Шыя тонкая і памерна даўгая. Скурка на шыі тонкая і далікатная з вялікай колькасьцю дробных складак. Хрыбет роўны.

3. Шырокія, глыбокія і даўгія грудзі; закругленыя і шырока расстаўленыя скабы (жэбры). Усё гэта сьведчыць аб добра разьвітых органах дыханьня і сэрца. Прастор паміж астнімі скабамі павінен быць вялікі (каб можна было ўмясьціць 2 — 3 пальцы.) Часта бываюць добрыя дойныя каровы і з вузкімі грудзьмі, але цялят ад такіх кароў ня варта пакідаць для гадоўлі.

4. Тулаў павінен быць авальны; бруха (чэрава) вялікае, к заду разшырваючаеся, але не абвіслае.

5. Крыж шырокі, даўгі і роўны, з добра рассуненымі седальнымі косьцямі. Шырокі крыж дае падставу судзіць, што карова ня будзе мець цяжкіх пародаў. Толькі шырокі і даўгі крыж можа даць добрую падставу для разьвіцьця вялікага вымя. Часта ў высока малочных кароў бываюць па абодвух баках караня хваста дзьве ямкі, якія завуцца „горнымі малочнымі „крыніцамі".

6. Ногі, як пярэднія, так і заднія, павінны мець шырокую расстаноўку і павінны стаяць проста. Асаблівым дэфэктам лічыцца, калі заднія ногі стаяць блізка адна ад аднае. Хвост даўгі і ценкі.

7. Найлепшым паказчыкам малочнасьці кароў ёсьць вымя. Вымя павінна быць як найляпей разьвітае, сягаючы высака паміж заднімі нагамі і як мага далей наперад к пупу.

Але не заўсёды вялікае вымя паказвае на добрую дойнасьць

каровы. Ёсьць каровы з вялікім вымям, але малака даюць мала. Такое вымя вялікае не дзеля таго, што ў ім зьмяшчаецца шмат малака, а таму, што мае сільна разьвітую спалучную, мясную або тукавую тканіну. Каровы з такім вымям даюць мала малака, а само вымя па выдаеньні астаецца такім самым вялікім, як і перад даеньнем. Тым часам, як добрае малочнае вымя пасьля выдаеньня становіцца малым, абвіслым з некалькімі зборкамі скуры. Скура на добрым выміі тонкая, пруткая і лёгка перасоўваючаяся, поўсьць на выміі тонкая, кароткая і рэдкая, дойкі ад сябе шырока расстаўлены, даўгія і завостраныя. Даўжыня пярэдніх і задніх доек павінна быць аднолькавая; прысутнасьць на выміі пятай, або яшчэ і шостай малых доек зьяўляецца добрай прыкметай.

8. Добрай прыкметай ёсьць яшчэ малочныя жылы, якіх павінна быць шмат і якія ў малочнай каровы відаць на вымені. Асаблівае ўвагі заслугоўвае т. зв. малочная жыла, якая ідзе ад вымя па бруху пад скураю ў кірунку грудное клеткі. Чым гэтая жыла таўсьцейшая, тым балей па ёй адводзіцца крыві ад вымя, а гэта знача, што толькі-ж крыві прылівае да вымя (тыя жылы, па якіх прыводзіцца сьвежая кроў, знаходзяцца глыбака і іх ня відаць). Чым больш крыві прыводзіцца да вымя, тым больш прыносіцца да яго патрэбных матэрыялаў для тварэньня малака.

У мейсцы, дзе малочная жыла ўваходзіць у бруха, знаходзіцца ямка, якая завецца „дольнай малочнай крыніцай“. Чым гэтая ямка большая, тым лепш.

9. Таксама аб малочнасьці каровы можна судзіць і па скуры. Скура малочнае каровы павінна быць тонкая, пруткая і лёгка перасоўвацца; поўсьць кароткая і мяккая.

Паміма гэтага па скуры можна да пэўнай меры судзіць і аб тлустасьці малака. Скура, якая мае шмат скурных залозак сьведчыць аб высокай тучнасьці малака ў каровы. Аб вялікай колькасьці скурных залозак можна пераканацца па далікатнасьці яе і полыску поўсьці, а таксама пры гладжані такое каровы рукою, на руцэ застаецца тлустасьць. З гэтым споена вылучэньне вушнога воску (серы), што таксама ёсьць добрай прыкметай высокай тучнасьці малака ў каровы.

**Т. С.**

# Прыгатаўленьне кампосту.

Галоўнаю прычынаю слабых ураджаяў на нашых глебах трэба лічыць недахоп адпаведнага ўгнаеньня. Не гаворачы ўжо аб штучных гнаёх, якіх у нас, нажаль, мала ўжываюць, не выкарыстоўваецца ў поўнай меры магчымасьць большага выпрадукаваньня тых гнаёў, якія могуць быць выраблены ў самой-жа гаспадарцы. Такім, мала ў нас распаўсюджаным, гноем ёсьць кампост. Пажыўныя складнікі, якія знаходзяцца ў ім, ёсьць у лёгка даступнай для расьліны форме, а дзеля таго кампост лічыцца вельмі добрым і хутка дзеючым угнаеньнем.

У залежнасьці ад матэр'ялаў, ужытых для прыгатаўленьня кампосту, часта можа ён зраўняцца і з добрым хлеўным гноем. Мата-

рыялами-ж, якія ідуць на кампост, зьяўляюцца рознага роду адкіды, якіх у гаспадарцы заўсёды знаходзіцца шмат. Такім чынам, на кампост можна ўжыць рознае сьмяцьцё з хаты, двара і дарог, бульбеўнік, лісьцё, кастрыцу, торф, выпалатае пустазельля, адкіды рознае жывёлы, косьці, гразь з дарог, глей з канаваў і сажалак, сажу і г. д.

Як бачым, пры добрым жаданьні можна напрадукаваць кампосту ў значнай колькасьці. Кампостныя кучы трэба закладаць у старане і старацца, каб яны былі схаваныя ад сонца і ветру. Пажадана таксама, каб кампостныя кучы ня былі вельмі далёка ад сядзіб, каб памыі і іншыя хатнія адпадкі было зручна даваць на кампост.

Кампостная куча можа быць якое хочаш даўжыні; шырыня-ж звычайна бывае 2-3 аршыны і вышыня 1½-2 аршыны. Пляцок, на якім мае быць заложана кампостная куча, павінен мець непрапускную глебу, у праціўным выпадку, трэба на пляцок навазіць гліны таўшчынею ў 2-3 вяршкі і ўтрамбаваць. Калі-ж на гэта не зьвярнуць увагі і зрабіць кампост на прапускной глебе, то ў выніку гэтага можа паўстаць шмат стратаў, бо вада, прасякаючы кампостную кучу, будзе прасякаць далей у грунт разам з рашчыненымі ў ёй складнікамі.

Першы пласт кампосту, таўшчынёю у 4-5 вяршкоў, павінен складацца з матарыялаў, якія-б добра затрымлівалі вільгаць, аманіяк і рошчыны іншых спажыўных складнікоў. Такімі матарыяламі могуць быць торф і багатая перагноем зямля. Таксама сухое лісьцё можа быць добра выкарыстана для гэтае мэты. Потым, калі першы пласт паложаны і выраўняны, можна ўжо скідаць на яго розныя адкіды і выліваць памыі. Калі-ж таўшчыня адкідаў дасягне вышыні 5-6 вяршкоў, тады наверх сыпецца пласт зямлі або торфу. Зямля і торф у кампосьце мае такое самае значэньне, як і падсьціл у гнаі. К таму, вельмі добра пласты адкідаў перасыпаць вапнаю, тады матарыялы ў кампосьце хутчэй перагніваюць і вапна сама па сабе зьяўляецца ўгнаеньнем. Пласты адкідаў у кампосьце чаргуюцца зямлёю да тае пары, пакуль вышыня не дасягне 1½-2 аршынаў. Вышэй кампост ужо не накладаюць, а абсыпаюць яго з гары і бакоў зямлёю і пакідаюць гніць.

Дагляд за кампостам палягае на тым, каб утрымаць яго ў належнай вільготнасьці. Кепска, калі кампост вельмі сухі, ці за шмат мокры. Калі кампост сухі, то паліваюць яго хлеўнай жышкай, а калі такое няма, то і звычайнаю вадою. Трэба старацца, каб кампост ня быў і залішне мокры, бо тады матарыялы ў ім блага гніюць, а падругое, з выцякаючай з яго вадою, прападае шмат спажыўных складнікоў. Дзеля таго, каб дажджавая вада пад кампост не падцякала, трэба яго абкапаць раўком.

Дагляд за кампостам палягае яшчэ і на тым, што яго праз кожныя 2-3 месяцы перакладаюць, каб зрабіць да ўсіх яго частак доступ паветра. Пры такім перамешваньні кампостнае кучы, стараюцца каб верхні пласт папаў на спод, а сподні на верх. Робіцца гэта дзеля таго, што ў сярэдзіне кампост хутчэй перагнівае, чым з надворку. У залежнасьці ад матарыялу, з якога кампост складаецца, па-

вінен ляжаць ён 1-2 гады. Добра высьпелы кампост ёсьць тады, калі прадстаўляе сабою аднастайную, перагніўшую, чорную масу.

Кампост зьяўляецца добрым угнаеньнем для ўсіх агародных расьлін. Вельмі добры ўплыў робіць ён таксама на сенажатную расьліннасьць. Даюць кампост на сенажаці позна восеньню і вясьной забараноўваюць. Ня можна даваць у восені кампосту на сенажаці з пахілаю плошчаю, адкуль ён сьнегавою або дажджавою вадою лёгка можа быць змыты і ня прынясе ніякае карысьці.

Таксама можна вывозіць кампост на поле пад пшаніцу, буракі, моркаву і інш. расьліны.

С. А.

---

# Чырвоная канюшына і яе мешаніны з іншымі канюшынамі і травамі.

Тую карысьць, якую дае канюшына ў гаспадарцы, ўжо добра зразумеў наш селянін, але не заўсёды яна ў яго добра ўдаецца і тут ужо наш гаспадар ня можа даць сабе рады. Пасеяў — а там як Бог дасьць!

Прычынаў няўроды можа быць шмат. Часьцей не ўдаецца канюшына таму, што ў глебе бракуе вапны, якое канюшына патрабуе ў значнай колькасьці (да 0.2%). Чырвоная канюшына таксама вымагае глебы глыбокай, памяркоўна цяжэйшай і вільгатнейшай.

Безвапенныя глебы бываюць часьцей і кіслыя. На такіх глебах кепска ўдаецца ня толькі чырвоная канюшына, але і рэшта матыльковых, як гарох, віка, люцэрна, эспарцэта і іншыя. Апрача таго кепска ўдаюцца на такіх палёх і буракі. Кіслыя глебы можна пазнаць і па дзіка растучай на іх расьліннасьці: на іх часта можна заўважыць шмат шчаў'я і сасонкі (завуць яе ў іншых мяйсцох яшчэ ёлкай). Такія глебы, будучы павапнены, даюць добрыя ўраджаі канюшыны. Пры вапнаваньні ня трэба забывацца і на іншыя мінэральныя гнаі, як фосфарныя і паташовыя. Асабліва пры вапнаваньню абядняецца глеба на паташ, які дзякуючы вапне пераходзіць ў лёгка рашчынную форму і, ня будучы ўжыткаваны расьлінамі, выпалоскваецца дажджавою вадою.

Далей, не ўдаецца чырвоная канюшына і таму, што ня мае адпаведнага дагляду, ня сеецца сваечасна, або сеецца кепскім, засьмечаным насеньнем.

У нас сеюць чырвоню канюшыну разам з яравым збожжам, але можна яе падсяваць і ў азімае. Найлепшымі ахаронными расьлінамі для канюшыны лічацца жыта і ячмень. У жыта падсяваецца канюшына вясною. Калі жыта вясной барануецца, то падсяваюць канюшыну перад баранаваньнем; іначай трэба яе падсяваць загадзя, у другой палове сакавіка, калі зямля яшчэ вільготная і зерня, ня будучы

прыкрытым, можа лёгка прарасьці і ўкараніцца Заўважана, што раньнейшы пасеў у вільготную глебу дае лепшыя вынікі.

Пасьля пасеву канюшына не патрабуе ніякага дагляду аж да восені. У першы год у восені канюшыну ляпей не касіць, а спасьвіць жывёлай. Толькі ня можна на пасеў канюшыны пускаць авечак і коней позняй восеньню, бо гэтыя жывёлы згрызаюць яе блізка пры зямлі і да прымаразкаў канюшына не пасьпее адрасьці.

Дзе ёсьць небясьпека, што канюшына за зіму можа вымерзнуць (вельмі цяжкія і мокрыя глебы), трэба ўвосені пасеў прыкрыць саломістым гноем, кампостам або бульбянікам. На другі год вясною канюшыну трэба добра пабаранаваць, каб у глебе лепш утрымлівалася вільгаць. Баранаваць трэба таксама і пасьля кожнага ўкосу.

У разе, калі з вясны аб'явіцца, што шмат канюшыны вымерзла або выпрэла, ці была ўшкоджана мышамі, трэба яе палепшыць падсяваньнем іншых канюшынаў або траў.

Дзеля гэтае мэты бяруць часьцей насеньне канюшыны інкарнаткі, якая дае хоць горшы корм, чым чырвоная канюшына, але расьце шыбка і хутка запаўняе травастан. Пры чыстым пасеве высяваецца інкарнаткі каля 15—20 кілёграм на гэктар. Пры двух укосах у адзін год, ляпей насеньне інкарнаткі зьмяшаць з італьянскім райграсам (двугадовая трава). Тады інкарнаткаю павялічыцца першы ўкос, а райграсам — другі. Добраю травою для палепшаньня травастану канюшыны ёсьць галяндскі райграс (вэстэрвольдзкі), які можна падсяваць чыстым або ў сумешцы з інкарнаткаю. Галяндзкі райграс ёсьць аднагадовая трава, расьце вельмі шыбка (шыбчэй чым італьянскі райграс) і дае пры чыстым засеве 3 ўкосы за год. Трава гэтая лічыцца адной з найлепшых для палепшаньня травастану слабое канюшыны пры аднагадовым яе карыстаньні. Аднак вымагае вельмі добрай ураджайнай глебы.

Падсеяныя травы трэба добра забаранаваць, або спачатку канюшыну забаранаваць, а потым падсеяць травы і прыкачаць цяжкімі вальцамі.

Палепшаньне кепскага травастану чырвонае канюшыны праз падсяваньне іншых сартоў канюшыны і траваў карысна толькі тады, калі канюшыны выгінула ня больш аднае трацiны і, калі гэтая работа будзе праведзена загадзя вясною; іначай ляпей поле загараць і засеяць іншую расьліну.

Далей, трэба памятаць, што канюшыну можна сеяць на адным і тым мейсцы не раней як праз 6 — 7 гадоў.

Калі заўважана, што чырвоная канюшына на пэўных палёх кепска родзіць або вымярзае, то тады ляпей яе сеяць не як чысты пасеў, а ў сумешцы з іншымі канюшынамі і травамі. Такія мешаніны канюшыны з травамі хоць па сваёй кармовай якасьці стаяць трохі ніжэй чыстай канюшыны, але затое даюць пэўнейшыя і часта большыя ўкосы. Як прыклад, для складаньня мяшанак канюшынаў з травамі, мы падаём табліцу І. Турнау.

| Ужытак: | Глеба: | Чырвоная канюшына | Швэдзкая канюшына | Белая канюшына | Хмялёвая люцэрна | Цімафейка | Райграс італьянскі | Райграс ангельскі | Райграс французкі | Купкавая трава | Увага: |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аднагадовы | Гл. зьвязная | 10 | 4 | — | — | 4 | 5 | — | — | — | Становішча вільготнае |
| „ | „ лягчэйшая | 12 | 2 | — | — | 4 | 5 | — | — | — | Становішча сушэйшае |
| „ | глінка пяшч. | 14 | 5 | — | 4 | 4 | 4 | — | — | — | Маем на мыслі глінку пяшчыстую вільготную (sapy) |
| Двухгадовы | Гл. зьвязная | 8 | 5 | — | 6 | 5 | 6 | 10 | — | — | Становішча вільготнае |
| „ | „ лягчэйшая | 10 | 3 | — | 7 | 5 | 6 | 10 | — | — | Становішча сушейшае |
| „ | глінка пяшч. | 12 | 4 | 5 | 8 | 6 | 6 | 10 | — | — | Ад другога г. ужытку штогод адзін укос, потым паша |
| Трохгадовы | Гл. зьвязная | 7 | 5 | 4 | 8 | 5 | 5 | 12 | 10 | 5 | Становішча вільготнае |
| і даўжэйшы | „ лягчэйшая | 8 | 4 | 4 | 9 | 6 | 5 | 12 | 12 | 7 | Становішча сушэйшае |
| | глінка пяшч. | 9 | 6 | 7 | 10 | 5 | 4 | 14 | 8 | 5 | Ад другога г. ўжытку штогод адзін ўкос, потым паша |
| Аднагадовы | Сярэд. зьвязная | — | 8 | — | 4 | 5 | 6 | — | — | — | Калі у севазвароце мусіма часьцей сеяць канюшыны з травамі, то трэба скласьці мешаніну адзін раз з чырвонай канюшынай, другі раз з швэдзкаю, бо адна і другая ня могуць быць на тым самым полю часьцей як праз 6—7 гадоў |
| Двох-трох гадовы | Сярэд. зьвязная | — | 8 | 3 | 6 | 5 | 5 | 8 | 16 | — | |

Пададзеныя ў табліцы цыфры азначаюць колькасьць насеньня ў кілёграмах на 1 гэктар. Табліца гэта, як сам аўтар кажа, ёсьць толькі прыкладам дзеля складаньня мешанін канюшынаў з травамі і можа мяняцца ў залежнасьці ад мяйсцовых варункаў, глебы, клімату і цэнаў паасобнага насеньня. **З. А.**

# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй старшыні Бел.
Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“
Людвікі Войцікавай.

## Здабывайма веду.

Каб карысна і лёгка вясьці пчалярскую гаспадарку і атрымліваць з яе магчыма вялікі даход, неабходна пазнаёміцца з жыцьцём пчолаў, умець іх даглядаць, памагаць ім, калі трэба, сьцерагчы ад хваробаў і ворагаў.

Вельмі мыляецца той, хто думае, што даволі завясьці пчолаў, каб зараз мець поўныя вульлі мёду. Апошняе можна здабыць толькі стараннай працай, працай над здабыцьцём неабходнай як практычнай, так і тэарытычнай веды.

Як бачым з лістоў і пытаньняў, якія шлюць, у Т-ва „Пчала“ нашыя пчаляры, жаданьне здабыць веду ў іх што раз больш расьце; шукаюць гэтай веды і стараюцца знайсьці яе, карыстаючыся адзіным беларускім пчалярскім падручнікам.

Але-ж гэтага хапіць ня можа. І вось Т-ва „Пчала“, ня гледзячы на вельмі цяжкія варункі, у якіх яно знаходзіцца, пастанавіла даць магчымасьць сваім братом-пчаляром здабыць тую жаданую, фаховую веду, так неабходную дзеля падняцьця прадуктыўнасьці пчалярскіх гаспадарак, арганізуючы пчалярскія завочныя карэспандэнцыйныя курсы.

Курсы будуць трываць 3 месяцы. Для сяброў Т-ва (г. зн. унёсшых пай 10 зл., 2 зл. упісных і 1 зл. за сяброўскую кніжку, пры чым пай пры выступленьні з ліку сяброў аддаецца ўнёсшаму назад) курсы бясплатныя, толькі вымаганы зварот коштаў паперы і перасылкі ў ліку 3 залатовак у месяц.

Для несяброў плата—10 зл. у месяц.

Заявы прыймаюцца да 1-га сакавіка. Слаць па адрасу Т-ва „Пчала“: Вільня, вул. Віленская № 8—3.

Браты-Пчаляры! Не шкадуйце грошы на навуку: пчолы вернуць Вам іх з вялікімі працэнтамі, калі Вы толькі з новымі сіламі, з новай ведай прыступіце да працы.

---

## Штучная вуза і яе значэньне у пчалярскай гаспадарцы.

Старадаўныя пчаляры, маючы ўсюды вялікія крыніцы мёдазбору, мала дбалі аб тое, каб даць пчолам адпаведную помач з мэтай павялічэньня ліку сабранага мёду. — Сыпалі новыя раі ў парожнія калоды, а нават пасьля ў рамовыя вульлі на пустыя рамкі і пчолы мусілі самі забудаваць усё вашчынай і заліць мёдам.

Бяручы пад увагу, што пчолы выдзяляюць воск з свайго цела, як лішнюю тлустасьць, было падлічана, што дзеля таго, каб збудаваць 1 кілягграм вашчыны (6—7 рамак) пчолы мусілі зьесьці каля 10 кілянграмаў мёду.

Можна сабе выабразіць, які аграмадны павінен быць мёдазбор, каб пчолы, дапусьцім 50-ці вульлёвага пчальніка змаглі збудаваць сабе гнёзды, магазыны і заліць іх мёдам!

Прадбачыўшы паступовае зьмяньшэньне ліку мядовых расьлін, пчалярская навука старалася знайсьці магчымасьць памагчы пчолам у рабоце.

І вось у 1850 годзе пчаляр Мэрінг вынайшоў штучную вузу.

Усе сьвятлейшыя пчаляры пасьпяшылі застасаваць гэты важны вынаход у сваіх гаспадарках і такім чынам пабольшыць атрымліваны даход.

Вылічэньне зусім яснае: калі даць пчолам 6—7 рамак штучнай вузы, то гэтым ашчаджаем каля 10 кіл. мёду. Лічучы, што 6 аркушоў штучнай вузы важыць ½ кіля, а кіля вузы ў Т-ве „Пчала" каштуе 13 зл., г. зн. 6 арк. каштуе 6 зл. 50 гр., а 10 к. мёду каштуе найменьш 25 зл. Значыць пчаляр, купіўшы ½ кіля шт. вузы, мае 18 зл. 50 гр. чыстага зыску.

А калі пчаляр пераменяючы старыя, чорныя плястры на сьвежыя, зьбярэ пэўны лік свайго воску і пераробіць, або заменіць яго на штучную вузу, то зыск яго будзе яшчэ большы.

Ужываючы штучную вузу трэба перадусім браць пад увагу адкуль мы яе выпісываем. Найлепш купляць яе ў сваім каапэратыўным Т-ве, якое стараецца даць сваім сябром пэўны і добры тавар.

Добрая штучная вуза мусіць быць зусім чыстай, г. зн. воск перад пераробкай павінен быць як найлепш ачышчаны, а пры пераробцы ня можна да яго дадаваць ніякіх сумесяў; мусіць мець сьветлы коляр і свой прыродны пах.

Далей, вуза мусіць быць даволі моцнай—пруткай, каб у вульлі пры награваньні адпаведна расьцягівалася, а не адрывалася.

Што тычыцца таўсьціні, то аркушы штучнай вашчыны бываюць і таўсьцейшыя і цянейшыя. Зразумела, што таўсьцейшых ідзе на 1 кілё меньш, чым цянчэйшых і што з гэтага вынікае, таўсьцейшы аркуш даражэй каштуе. За тое таўсьцейшую вузу лягчэй пчолам адбудаваць, бо маюць на гэта больш гатовага матарыялу; апрача таго яна мацнейшая, ня гэтак лёгка ў вульлі адрываецца. Пры адбудоўваньні цянейшай вузы пчолы змушаны ўжываць больш ўласнага воску, а пры умацоўваньні ў рамкі трэба прыкладаць шмат стараньня і ўвагі, каб вуза не абарвалася.

Маючы на меце атрыманьне чым наймацнейшай і найпрактычнейшай штучнай вузы, амэрыканскія пчаляры прабавалі рабіць яе не з пчалінага воску, а з іншых адпаведных матарыялаў. Прабавалі, напрыклад, вырабляць алюмініявую вузу, прабавалі ўстаўляць у сярэдзіну васковай вузы тонкі пласт фанеры і г. п.

Аднак, кожны з гэтых спосабаў меў свае недахваты і добра, старанна зробленая вуза з чыстага пчалінага воску зьяўляецца найлепшай.

Л. Войцікава.

# Адкуль пчолы зімой бяруць ваду.

Кожны пчаляр добра ведае, што пчолы роўна з мёдам і пяргой ужываюць ваду. Калі ў летку мы бачым шмат пчолаў, зьбіраючых ваду, то адкуль яны бяруць ваду зімой, ня вылятаючы з вульлёў? Над гэтым пытаньнем доўга працавалі вучоныя, пакуль яго наканец разьвязалі. Аднак і цяпер яшчэ ня ўсе пчаляры аб гэтым ведаюць. Шмат пчаляроў думае, што зімой пчолы здаволіваюць смагу той вільгацьцю, якая спатыкаецца ў вульлёх.

У сапраўднасьці, як правільна заўважыў вядомы пчаляр Бэрлепш, у вільготным вульлі вады пчолам не хапае, у той час, калі ў сухім яе даволі.

Тая вада, якая патрэбная пчолам падчас зімы, творыцца сама па сабе. Незакрыты мёд уцягвае ў сябе вільгаць з паветра. А паветра, чым больш бывае нагрэтае, тым больш затрымлівае ў сабе вільгаці, каторую затое лёгка з сябе выдзяляе, калі пачне ахаладжывацца.

Пры нармальным і спакойным зіmаваньні клубок пчолаў дыхаючы выдзяляе паветра цяплейшае, чым паветра знаходзячаеся ў непакрытай пчоламі часьці гнязда, пры выхадзе з клуба гэтае паветра спатыкаючы на сваей дарозе прадметы халодныя, само ахаладжываецца і выдзяляе лішнюю вільгаць, якую густы, раскрыты мёд уцягівае ў сябе і робіцца настолькі вадзяністым, што пчолы, ядучы яго, здаволіваюць сваё запатрэбаваньне на ваду.

І вось з мэтай атрыманьня гэтакім чынам патрэбнай для свайго зімовага жыцьця вады, пчолы, паводле досьледаў пчаляра Цесельскага, звычайна над клубком і трымаюць заўсёды накаторы лік каморачак з разкрытым мёдам, каторы ўцягівае ў сябе з паветра вільгаць.

Н. Бадаў.

---

# Паштовая скрынка Т-ва „Пчала“.

Сьцяпану Ососу. Цэннік хутка Вам вышлем.

Саўчыку Міхалу. 2 зл. ад Вас атрымалі, але-ж кніжка „Пчолы і як іх гадаваць у рамовых вульлях“ каштуе з перасылкай 4 зл. 30 гр. Прышліце яшчэ 2 зл. 30 гр. тады кніжку вышлем.

Пільку Бэнэдыкту. Зразумела, што трэба Вам купіць падручнік пчалярства (каштуе з нерасылкай 4 зл. 30 гр.), а таксама выпісаць часапісь „Саха“, у якой ёсьць спэцыяльны пчалярскі аддзел. Набраўшы фаховай веды, Вы зможаце добра даглядаць свае пчолы і тады сьмела спадзявацца ад іх карысьці.

А што тычыцца выпадку з роем, то гэта ня дзіва, бо ніколі ня можна натуральны рой садзіць у вульлей днём, а толькі пад вечар, па заходзе сонца, пратрымаўшы яго ў працягу дня ў халодным мейсцы. Апрача таго, вульлей павінен быць адпаведна прыгатаваны, чысты, шчыльны, з некалькімі рамкамі вашчыны і штучнай вузы. Калі-б даць яшчэ рамку чарвы, ўзятую з іншага вульля, тады можна мець пэўнасьць, што рой не ўцячэ. — 50 гр. чакаюць Вашага загаду.

Уладзімеру Шэўчыку. 1-н кіляграм штучнай вузы каштуе 13 зл.; упакоўка 75 гр., перасылка 1 зл. 40 гр. Калі купіце 2 ці 3 кілёгр., то кошт упакоўкі будзе той самы а перасылка значна таней.

Вузу маем толькі на разьмер рамкі Дадан-Блята, для варшаўскай яна будзе крыху за шырокая. На адзін кіляграм ідзе 13 арк.

Вашыя 50 гр. астаюцца ў нас да Вашага распараджэньня. Мо перадаць іх на „Саху“.



# Карэспандэнцыі.

## Маладэчаншчына.

У № 3 „Сахі“ быў артыкул пад назовам „Аб зьмене сыстэмы гаспадараваньня“, у якім аўтар раіць заняцца жывёлагадоўляй з тае прычыны, што, дзякуючы нізкім цэнам на збожжа, яно ня можа акупіць тае працы, якую гаспадар кладзе ў яго, асабліва калі прыняць пад увагу нашы дзядоўскія спосабы гаспадараваньня. Праўда, сьвятая праўда ўва ўсім гэтым! Але, калі я падумаю аб жывёлагадоўлі ў нас у Маладэчаншчыне, дык проста няведаю што і казаць, асабліва калі гэтую жывёлу трэба, каб залатаць дзіркі ў гаспадарцы, прадаць. Добра, калі хто прыдзе на дом і купіць, але калі жывелу трэба вясьці на рынак—тут ужо справа зусім іншая. Прадаў ня прадаў, а „рынковага“ злотых 3 — 4 аддай з кішані, а дзе-ж іх узяць, калі дзеля гэтага-ж і жывёліну вывяў прадаць. Іншы-ж раз здараецца, што селянін разоў пяць прыводзіць на рынак, разоў пяць плаціць „рынковае“, а прадасьць за 50—60 зл. і калі адлічыць усе выдаткі—яму блізу што нічога не астаецца. Вось тут нам і трэба падумаць, як унікнуць усяго гэтага, каб наш крывава запрацаваны грош не пападаў у рукі прыватнага гандляра, які, карыстаючыся з нашае несьвядомасьці і неарганізаванасьці, на нашых мазалёх нажывае сабе капітал. Бо і запраўды, калі ўнікнуць у справу, так і выходзіць. Тая-ж самая „Саха“ і тут дае раду. Трэба прадаваць арганізавана, праз коопэратыў. Тады мы абмінем прыватніка-гандляра і іншых пасрэднікаў, якія нашым коштам нажываюцца, і зможам прадаць па той цане, якая стаіць на агульным рынку, і ў дадатак бяз лішняе валакіты і турботаў.

П. Асіпа.

# Пытаньні і адказы.

Пытаньне 1. Як ляпей каровам даваць буракі: разрэзанымі, сечанымі ці цалком? Якая вобмешка ляпей для каровы: вотрубі (жытнія) ці мука?

П. Лабоцкі.

Адказ. Буракі, моркву, рэпу ляпей даваць карове цэлымі. Праўда, што спачатку карова вельмі памалу есьць, але потым, як прывыкне, есьць іх хутка. Калі буракоў даецца шмат (болей 40 кг. (100 фунт.) у пару), то тады трэба іх рэзаць. Перад кармленьнем буракі павінны быць добра вымыты.

Што-ж тычыцца кармленьня вотрубямі ці мукою, то можна сказаць наступнае: вотрубі маюць у сабе шмат каштоўнага пажыўнога складніка—белкавіны—10,8 прац., у той час, як у жытняй муцэ яе—7 прац. Але затое мука мае апрача белкавіны яшчэ шмат крахмалу, так што агульная пажыўная вартасьць мукі амаль што ў 2 разы большая за паж. варт. вотрубяў. Дзеля таго, што мука даражэй за вотрубі, а вышэйшая яе кармовая якасьць, ёсьць дзякуючы галоўна крахмалу (вуглягідрат), таней будзе карміць вотрубямі разам з іншымі танейшымі кармамі багатымі на вуглягідраты, як, напр., бульба.

Пытаньне 2. Ці можна і як самому паставіць пярунавод (грамаатвод)? Ці можна пры гэтым абыйсьціся без плятынавага наканечніка?

П. Лабоцкі.

Адказ. Пярунавод можна пабудаваць і самому. Можна абыйсьціся і без плятынавага наканечніка. Але гэту справу трэба рабіць умеючы, бо не адпаведна пабудаваны пярунавод ня толькі ня прынясе карысьці, а наадварот яшчэ можа пашкодзіць. Рэкамэндуем выпісаць з бел. кнігарні падручнік па будове пярунаводаў.

Пытаньне 3. Хачу аднавіць кусок сенажаці. У восень гэту сенажаць я загараў і ня ведаю, што ляпей на ёй вясною пасеяць. Якія ёсьць да гэтага падручнікі і якія падручнікі аб караньплодах?

Адказ. Пры аднаўлені сенажацяў, трэба спачатку патрымаць іх некалькі (3—4) гады пад палявой культурай. У першы год можна высяваць авёс, віку з аўсом, проса, лён, а на другі год ляпей даць караньплоды, а калі ня вельмі вільготна, то і бульбу. Калі за два гады зямля добра распрацуецца і дзірван перагніе, то можна засеяць мешаніну траў па аўсе ці па аўсе з вікай. Трымаецца пад палявымі культурамі сенажаць дзеля таго, каб непатрэбныя травы і пустазельле не парасло на новым дзірване.

Кніжкі, па цікавячых Вас пытаньнях, можаце набыць у Бел. Кнігарні (Wilno, Ostrobramska 1):

1) М. Кацаўраў—Бульба і караньплоды, цана 50 гр.

2) Д. Пракапенка—Як палепшыць сенажаць, цана 1.25 гр.

4. Д. Хмары. — Кніжак па рыбнай гаспадарцы ў Вільні на беларускай мове няма. На польскай мове можна дастаць праз белар. кнігарню (Wilno, Ostrobramska 1) або праз рэд. „Сахі" такія кнігі: B. Benecke, „Gospodarstwo stawowe", цана 10 зл., Jan Strzelecki, „Praktyczne wskazówki dla hodowli karpi", цана 2 зл. 50 гр. Цэны паказаны без перасылкі.

# ХРОНІКА

**Беларускія жанчыны арганізуюцца.**

— Даўно ўжо адчувалася ў нас патрэба жаночае арганізацыі, якая-б згуртавала беларускіх жанчын і гэтым самым зрабіла-б працу іх на карысьць нашае агульнае беларускае справы больш актыўнаю. Апрача гэтае агульнае мэты, жаночая арганізацыя дае магчымасьць жанчынам абменівацца думкамі і радамі ў сваіх справах чыста жаночага характару. Словам, заданьні жаночае арганізацыі вялікія і аб іх яшчэ шмат будзем гутарыць далей.

Былі ўжо спробы і раней стварыць жаночую арганізацыю, але нейк да гэтага часу не ўдавалася. Урэшце гэтая думка зьдзейсьнілася. Статут арганізацыі, якая носіць назоў „Аб'еднаньне Беларускіх Жанчын імя Алёізы Пашкевічанкі (Цёткі)“, ўжо зацьверджаны адпаведнымі ўладамі. Пакуль што Статут зацьверджаны толькі на Віленскае Ваяводзтва, але ўрад „Аб'едн. Белар. Жанчын“ робіць ужо захады аб пашырэньні статуту і на іншыя ваяводзтвы.

Галоўныя мэты статуту—гэта імкненьне да адраджэньня беларускага Народу праз пашырэньне і паглыбленьне ідэі беларускасьці, і забясьпечаньня ўплываў жанчынам бяспасярэдня на культурна-асьветнае і грамадзкае жыцьцё.

Па зацьверджаньні статуту адбыўся дня 11/1 1931 г. арганізацыйны Сход, на якім былі выбраны ўрад і Рэвізыйная Камісія, а таксама быў абгавораны і намечаны плян працы ў бліжэйшай будучыні. У Урад „Аб'еднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізы Пашкевічанкі (Цёткі)“ увайшлі грамадзянкі: старшыня А. Астроўская; віце-старш. А. Лобанава і Шнаркевічава; сэкрэтар М. Занюкова; скарбнік А. Лекантава. У склад Рэвізыйнае Камісіі ўвайшлі грамадзянкі: Н. Лукашэвічава, А. Быхаўцава і Е. Каўшова. Сядзіба арганізацыі: Вільня, Віленская 8—3.

Намячаючы плян працы, між іншым пастаноўлена выдаваць дзіцячую часопісь „Заранка“ і невялікую часопісь, прысьвечаную жаночым справам пад назовам „Жаночы Куток“.

Даючы гэтыя кароткія інфармацыі Урад „Аб'еднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізы Пашкевічанкі (Цёткі)“ зварочваецца з заклікам да ўсіх жанчын беларусак, а таксама і да ўсяго беларускага грамадзянства наагул прыняць актыўны ўдзел у працы вышэй азначанай арганізацыі і памагчы ей маральна і матэрыяльна.

Беларускі! З цёплым і шчырым сэрцам пачынаем выдаваць наш „Жаночы Куток“ — адгукнецеся таксама шчыра, пішучы ў гэтую часопісь аб сваіх думках, намерах і г. д. Дзеля недахопу матэрыяльных сродкаў „Жаночы Куток“ будзе выходзіць пры гаспадарчай часопісі „Саха“. Першы нумар выйдзе ў пачатку лютага г.г. Матэр'ялы для першага нумару просім прысылаць да 10 лютага г. г.

**Урад**
**Аб'еднаньня Беларускіх Жанчын**
**імя Алёізы Пашкевічанкі**
**(Цёткі).**

## Справаздача коопэратыва „Спулдзельца“ ў Вільні за 1930 г.

Коопэратыў „Спулдзельца“ ў Вільні заложаны 11/XII 1922 г.

У пачатку свайго існаваньня коопэратыў меў толькі адну краму.

У 1926 г., дзякуючы сябром беларусам, а асаліва вучыцялём Віл. Бел. Гімн., якія амаль што ня ўсе як папарэднія так і цяперашнія зьяўляюцца сябрамі коопэратыву, была адчынена другая крама пры Вострабрамскай вул.

У пачатку свайго істнаваньня, коопэратыў вельмі добра разьвіваўся, так што ў працягу трох гадоў амаль ня ўсе сьвядомыя беларусы належалі да гэтага коопэратыву.

Аднака-ж хутка гэты ўзрост пачаў апускацца, і як пакажуць далей цыфры, апускаўся ў некалькі разоў хутчэй, чым разьвіваўся.

Кожны беларус, прачытаўшы гэта, задасьць сабе пытаньне. А якая-ж прычына была ўпадку коопэратыву?

Прычына была тая, што зьмяніўся Урад і зьмянілася кіраўніцтва, каторае пачало больш займацца палітыкай, як коопэратывам, які аставаўся аж да 1930 г. гэтаю палітычнаю ахвяраю

Дзякуючы такім нядбалым адносінам Ураду, каторы ўсю тую надвыжку, якую запрацаваў папярэдні ўрад, больш менш=2,500 зл. прарабіў і ўжо ў 1928 г. коопэратыў меў стратаў—775 зл.

У 1929 г., калі Урад меняўся 4 разы на год, коопэратыў даў стратаў 3388 зл., гэта значыцца, што на дзень 31.XII 1929 г. коопэратыў меў стратаў 4163 зл.

Справаздача на дзень 31.XII 1930 г. паказвае, што коопэр. лічыць 170 сяброў, з якіх 80% актыўныя беларусы; рэшта—гэта палякі, расейцы і трохі жыдоў.

Дзякуючы цяжкім абставінам, першая крама была зачынена ў пачатку 1930 г. і асталася толькі адна крама пры Вострабрамскай вул.

У 1929 г. дзьве крамы зрабілі абароту ў год—76144 зл.

У 1930 г. адна крама зрабіла абароту 84464 зл. і дала надвыжку — 2700 зл.

Гэта значыцца, што страты за папярэднія гады асталося яшчэ 1463 зл, Супольнага капіталу мае коопэр. 1077,20 зл., паявога—1582 зл.

Цяперашні Урад мае надзею, што ў працягу бягучага паўгоду страта пакрыецца і коопэратыву будзе працавапь лягчэй, бо будзе мець менш даўгоў, а ў канцы году выплаціць сябром пэўны процэнт звароту ад закупаў.

**А. Лобан.**

## Цэны азотных гнаёў.

Дзяржаўная фабрыка азотных гнаёў у Ходараве абвесціла свае ўмовы на распачынаючыся веснавы прадажны сэзон: Цэны зьменны і што месяц іншыя: ніжэйшыя з пачаткам сэзону і вышэйшыя на вясну.

Цэны молатага азотняку з 20 — 22 працэнт. азоту выносяць у злотых:

| | гатоўкаю | вэксэлямі |
|---|---|---|
| у студні 1931 г. . . . . | 1.76 | 1.87 |
| у лютым-траўні 1931 г. | 1.80 | 1.90 |

Грануляваны азатняк (21—23 прац. азоту) каштаваціме кожнага месяца на 20 гр. даражэй ад молатага азатняку.

Цэны краёвае салетры абніжаны раўняючы да чылыйскае, а ўласне: „Saletrzak”—на 25 пр., а „Nitrofos” на 19,5 прац.

**(Кооп. Респ.)**

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## У польскім Сойме.

Пасьля сьвятаў узнавілася праца ў заканадаўчых палатах Польшчы і іх камісіях. У бюджэтнай камісіі пачаўся разгляд каштарысаў паасобных міністэрстваў. У зьвязку з бюджэтам мін. ўнутраных спраў аратары апазіцыі востра крытыкавалі акцыю ўраду ў часе выбарнай кампаніі. Адказываючы на закіды, Міністар Унутраных Спраў адказаў, што ўрад прымаў актыўнае ўчасьце ў выбарах, бо-ж „такога ўраду, які-б ня прымаў учасьця ў выбарах, на сьвеце яшчэ ня было". „Кожны ўрад, казаў міністар, нясе адказнасьць ня толькі за сучаснасьць, але і за будучыню. А будучыня якраз і творыцца ў часе выбараў. Гэтую будучыню для Польшчы найлепш прадбачыць і гарантуе думка і воля марш. Пілсудскага". „Дык я, казаў міністар Складкоўскі, і загадаў усім старостам прыняць усе легальныя меры, каб думка марш. Пілсудскага затрыўмфавала".

Як ведама, на выбарах „думка марш. Пілсудскага" канкрэтна выступала ў відзе кандыдацкіх спіскаў „Б. Б."—з марш. Пілсудскім на чале.

10. I. пачалася праца камісіі для замежных спраў. Мін. Залескі зрабіў экспозе. Мін. падкрэсьліў мірны характар польскай палітыкі, але прызнаў магчымым разбраеньне толькі ў меру зьмяншэньня ваеннай небясьпекі для Польшчы з боку яе суседзяў.

## Берасьць.

З страніц польскай прэсы ня зыходзіць так званая „справа Берасьця", ці тых нячуваных гвалтаў, якія рабіліся над арыштаванымі б. пасламі ў ваенным вастрозе ў Берасьці. Штодня зьяўляюцца ў газэтах падпісанныя заявы пратэсту і асуджэньня катаваньня павадыроў польскай апазыцыі ў Берасьці.

Урад дагэтуль яшчэ ня выдаў афіцыяльнага камунікату ў гэтай справе, каб супакоіць узварушаную апінію. У Сойме ўрадавая большасьць, як ведама, адкінула сьпешнасьць інтэрпэляцыі.

## Поўны развал ком-партыі ў Польшчы.

Сталін прадаўжае сваю „гістарычную ролю": развалівае компартыю ня толькі ў СССР, але — і з большай яшчэ шпаркасьцяй — заграніцай.

Агенцтва „Іскра" паведамляе, што ўсюды на „Крэсах" камуністы-сталінаўцы раскідаюць „лятучкі", у якіх страшэнна лаюць сваіх „праціўнікаў"—апазыцыянераў (процісталінаўцаў), называючы прыгэтым іх поўныя прозьвішчы—дзеля ведама польскай паліцыі... Цікаўна, што „сталінаўцы", лаючы сваіх „найгоршых ворагаў", былых сяброў „адзінай" ком-партыі, называюць іх „агентамі польскай паліцыі"... Вось тутака і разьбярыся, хто з іх агенты!..

## „Беларускі Тыдзень“ у СССР.

У камуністычнай Маскве—вялікі гук: новы ўздым „пачуцьцяў“ да Беларусі... Урад абвясьціў „Тыдзень Беларусі“. Газэты заліть выслаўленьнямі дасягненьняў беларускай культуры пад савецкай уладай і страшэннай лаянкай на тых беларускіх дзеячоў, якія... як раз найбольш прычыніліся да гэтых дасягненьняў беларускай культуры... Газэты маскоўскія, як і менскія, трэбуюць, каб усе гэтыя „здраднікі“, „нацыянал - дэмакраты“, „белапалякі“, „падрываючыя падставы камунізму“ і — „працуючыя ў Радавай Беларусі на карысьць... польскага імпэрыялізму“, былі „сьцёрты ў парашок“...

Такім чынам уся акцыя проці шчырых беларускіх культурна-нацыянальных дзеячоў, заслугі якіх—бясспрэчныя, перанесена цяпер з Менску ў Маскву.

А гэта—ясна—мае мэты шырэйшыя!.. І запраўды—усё кажа за тое, што рыхтуецца новы працес аб „контр-рэвалюцыйным шкодніцтве“—працэс спэцыяльна беларускі.

У зьвязку з тым прывезена ў Маскву чысьленая беларуская дэлегацыя. Дэлегацыя складаецца з 265 прадстаўнікоў сялян, работнікаў і інтэлігенцыі.

У чэсьць дэлегатаў Беларусі наладжаны быў у Маскве рад „акадэміяў“ і мітынгаў. На акадэміі выступіў сам „бацька польскага камунізму“ Фэлікс Кон, які асабліва страшыў Маскву, каб добра пільнавала Беларусь—пляц прышлага бою з Польшчай—ад „белапольскай працы“ гэтых... беларусаў-культурнікаў. Тое-ж казаў і сэкрэтар ком-партыі Беларусі Шаранговіч, вінавацячы беларусаў-культурнікаў у тым, што яны „аказанае ім савецкай уладай даверра выкарысталі для падрыўной працы ў БССР—на карысьць Польшчы“...

Што гэта, запраўды: дурніна ці здрада?.. Ці-ж можа быць карысьнейшай для „белай Польшчы“ праца абураючая насяленьне ў Радавай Беларусі, як тая, якую робяць цяпер паны Коны, Шаранговічы, Чэрвяковы і іншыя сталінаўцы?! І ці-ж можа быць праца больш небясьпечная для „польскіх прэтэнсіяў на Радавую Беларусь“, як тая праца — шырокая і вольная — над разьвіцьцем беларускай культуры, якую—пры дапамозе савецкага ўраду—яшчэ так нядаўна рабілі грамадой і адзіным фронтам усе творчыя сілы Радавай Беларусі?!.

„Бацька польскага камунізму“, тав. Кон можа і ведае, што ён „радзіць“ адносна падрыхтоўкі ў Беларусі, „прышлага пляцу бою з Польшчай“. Але ці ведаюць гэта іншыя „сталінаўцы“,—сумліўна..

## Сэсія Ц. В. К. ССРР.

4 студня адчынілася ў крэмлеўскім палацы чарговая сэсія ўсесаюзнага цэнтральн. выканаўч. каміт. СССР. З дакладам па бюджэту выступіў новы старшыня Совнаркому Молатаў. Сябра Наркомфіна Тэумін далажыў праект фінансавага пляну. Плян прадбачаны на суму 32 мільярды рублёў. За 3 гады ён павялічыўся ўтрая. Раўнуючы да леташняга году—на 36 проц. Каб збалянсаваць гэты плян, трэба знайсьці лішніх 11 мільярдаў, якія пакуль што ў дэфіцыце (недахопе)

## Новыя паборы з сялянаў.

Радавы ўрад выдаў загад, каб спагнаць новы „аднаразовы пабор“ з сялян на патрэбы... сельскай гаспадаркі Ад новага падатку звальняюцца толькі работнікі і служачыя, атрымліваючыя менш 30 рубл. у месяц. Па 5 рублёў на рахунак гэтага падатку павінны плаціць нават тыя „бядняцкія“ гаспадаркі, якія звольнены ад „сельхозналога“!..

## Рух проці каралеўскае ўлады.

У Гішпаніі ня спыняецца барацьба паміж дыктатурай каралеўскага генэрала Бэрэнгэра і адзінай сільнай партыяй у краі — рэвалюцыйна-рэспубліканскай. Надзвычайна павучальна для ўсіх дыктатараў на сьвеце гэтая барацьба. Даведаўшыся на ўласным дасьледзе, як дыктатура—маральна і гаспадарча—забівае край, папярэдняя дыктатура ў Гішпаніі ген. Прыма-дэ-Рывэра змушана была „самазьліквідавацца“. Кароль тады назначыў другога ген, Бэрэнгэра, каб „пераеў дзяржаўна-палітычны лад у краі на нармальны шлях“.

Той зьвярнуўся да старых партыяў, каб дапамаглі „адбудаваць парлямэнцкі варштат працы“. Але шматлетняя дыктатура якраз тое пераважна і рабіла, каб зламаць, расклясьці і зьніштожыць дарэшты ўсе гэтыя легальныя партыі...

Таму гэтыя ўсе легальныя, умераныя партыі аказаліся ўжо ня маючымі сілы і карэньняў у краі...

„За тое“ асталіся дый здабылі нябывалую у каталіцка-пакорнай яшчэ нядаўна Гішпаніі сілу толькі партыі рэвалюцыйнай ненавісьці ня толькі да дыктатарскага ўраду, але і да каралеўскага (манархічнага) ладу...

## Збліжэньне (?) Англіі і Францыі.

Як ведама, папярэдні англійскі ўрад Бальдвіна—Чэмбэрлена паляцеў на выбарах таму, што ён вёў палітыку, залішне ўжо „угадовую“ адносна да Францыі і варожую да Злуч. Штатаў Амэрыкі. Амэрыка пачала біць далярам па Англіі, пагражаючы ў дадатку разбудовай свайго флёту стаць на месца Англіі—першай морскай дзяржавай сьвету.

Новы ўрад Мак-Дональда пачаў, як ведама, з таго, што паехаў на паклон і перапросіны да прэз. Гувэра. Амэрыка добра выкарыстала сваю сілу і слабасьць Англіі — у справе выраўнаньня морскіх збраеньняў абедзьвюх акіянскіх дзяржаваў. Тымчасам Англія ўсьцяж руйнавалася эканамічна і фінансава, але затое шпарка набіралася ваеннай сілы Францыя, якая адна-адзіная з усіх вялікіх дзяржаваў Эўропы ня мае яшчэ гаспадарчага крызісу. Урэшце Францыя пачала біць сваім франкам Англію. Францыя пачала „высмоктываць“ золата з Англійскага Банку, пагражаючы яму... крахам англійскага „фунта“...

Дык цяпер спалохаўся навет проці-францускі урад Мак-Дональда і запрасіў пардону... Францыя згадзілася нават дапамагчы фінансава Англіі, але—ведама-ж — пад варункам — зьмены замежнай палітыкі „работніцкага“ ўраду Англіі, а насамперш, зразумела — адмовы ад

усялякай проці-француская акцыі. Такім чынам, Мак-Дональду, які скінуў Чэмбэрлена за яго „пакорнасьць француским загадам“, прыходзіцца самому выконываць гэтыя загады...

Новае „збліжэньне“ Англіі і Францыі асабліва ярка адаб'ецца на чарговай сэсіі Рады Лігі Нацыяў, якая мае вырашыць рад важных справаў. Паміж імі — цікаўная і для нас справа парляманцкіх выбараў у Польскай Сілезіі — з прычыны скаргаў нямецкага ўраду. Сьпярша Мак-Дональд меў рашуча падтрымаць Нямеччыну. Цяпер ідзе на значныя ўступкі Францыі, якая бароніць Польшчу.

Новая англійска-француская Антанта псуе і ўсе лятуценьні Нямеччыны аб магчымасьці ў бліжэйшым часе паставіць на чаргу дня справу перагляду трактатаў і граніцаў.

## Маральная гніль.

Як ведама, у Францыі нядаўна паляцеў скандальна далоў „нячувана моцны „цэнтра-правы“ ўрад Тард'е. Паляцеў толькі таму, што раскрылася ўчасьце цэлага раду міністраў і найвышэйшых урадоўцаў у праступных афэрах прыватнага банку Устрыка, у якіх тысячы ўкладчыкаў страцілі больш мільярда франкаў. Быў створаны з вялікай труднасьцю новы, больш левы, радыкальны ўрад Стэга, які павёў вельмі жорстка сьледзтва ў „справе Устрыка“. Бязьлітасна раскрывала сьледзтва абраз агіднай банкава-бандыцкай афэры пана Устрыка—пад аховай самога мін. справядлівасьці папярэдняга ураду, пакуль... пакуль ня было выкрыта сьледзтвам... учасьце ў афэры і некаторых „супрацоўнікаў“ (міністраў?) сучаснага прем'ера Стэга!.. Як пойдзе сьледзтва далей, пабачым.

## Паўстаньне курдаў.

У Турцыі пачалося новае паўстаньне курдаў, ужо быццам цалком задушанае супольнымі высілкамі Турцыі, Пэрсіі і СССР. Але цяпер, як пішуць газэты, Пэрсія зьмяніла палітыку — адмовілася супрацоўнічаць з Турцыяй у душэньні вольных курдаў, якія лятуцяць аб незалежным Курдыстане. Нават галоўны павадыр паўстанцаў турэцкага Курдыстану, Ісан-Нурі-паша, жыве ў вялікім пачоце ў Тэгеране (сталіца Пэрсіі). Пэрскі ўрад рашуча адмовіўся выдаць яго турэцкім уладам.

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад. Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

## Перамена адрасу.

Зьвяртаем увагу паважаных грамадзян падпішчыкаў, што РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ „САХІ“ месьцяцца цяпер

**Wilno, Ostrobramska 9, m. 22,**

куды просім скіроўваць усю карэспандэнцыю і падпіску.

---

Новая, літэратурна-навуковая часопісь

# „На Прадвесьні“!

З сакавіка месяца г. г. у Вільні пачне выходзіць беларуская літэратурна-навуковая і грамадзкая часопісь

# „На Прадвесьні“

У склад Рэдакцыйнай калегіі ўваходзяць:

гр. гр. Акінчыц Фабіян, Бартуль Аўгэн, Ільляшэвіч Хведар, Казлоўскі Уладыслаў, Станкевіч Станіслаў і Тулейка Міхась.

Заклікаем усіх нашых літэратурных і грамадзкіх працаўнікоў прысылаць свае працы.

Адначасна з гэтым Калегія зьвяртаецца да ўсяго нашага грамадзянства з просьбаю падтрымаць пакуль-што адзінную літ.-навуковую часопісь на нашых землях, якая будзе выходзіць ня менш як на 160 старонак.

Прыймаецца заўчасная падпіска. — Цана паасобнага нумару — 3 зл.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.

Тымчасовы адрэс рэдакцыі: Вільня, Вострабрамская 9, кв. 22.